

*Свабода, роўнасць, братэрства!*

# Беларускі Усход

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!
**НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ГАЗЕТА**

**Заснавана ў 1991 годзе** ● № 1 (57) ● Пятніца, 5 лютага 1999 г. ● Кошт свабодны


## Навіны, падзеі, факты

У Хоцімску заменены старшыня райвыканкома. За ўсю гісторыю раёна пасля рэвалюцыі 1917 года вышэйшую пасаду мясцовай улады заняў, нарэшце, тутэйшы жыхар. Гэта выхадзец з простай сям'і калгаснікаў з вёскі Малуноўка, малады, энергічны, высокаадукаваны інтэлігентны спадар Генадзь Герасімавіч Сцефаненка. Сапраўдны патрыёт Бацькаўшчыны, бо інакш не ўзваліў бы на свае плечы такі жахлівы цяжар – ушчэнт развалены эканоміку раёна.

Цяжка давядзецца Генадзю. Большасць калгасаў і саўгасаў раёна — фактычна поўныя банкруты. Усе вытворчыя паказчыкі – самыя нізкія ў вобласці.

Г.Г. Сцефаненка ўзяў з першых дзён правільны кірунак у сваёй дзейнасці: строга патрабуе наводзіць парадак у вытворчасці і своечасова плаціць заробкі працаўнікам вёскі. І сярод простых людзей пра «першага» ходзяць добрыя размовы, а ў кіраўніцкім корпусе раёна чуюцца і наракання, бо «прыціснуў ім хвост», кажуць людзі.

***

У Касцюковічах набіраюць моц дэмакратычныя сілы. Імі тут заснаваны і выдаецца грамадскі інфармацыйна-аналітычны веснік «Заклік». Веснік інфармуе чытачоў аб фактах і падзеях на Касцюкоўшчыне, аб якіх не паведамляе раённая газета і пра што маўчаць дзяржаўныя абласныя і рэспубліканскія газеты, радыё і тэлебачанне. «Заклік» аналізуе становішча спраў у эканоміцы асобных гаспадарак раёна і ў краіне. На старонках весніка чытач знаходзіць таксама карысныя парады, жарты, вершы мясцовых паэтаў і іншыя цікавыя матэрыялы.

***

У Мінску адбыўся Другі Кангрэс Нацыянальнай Асамблеі Дэмакратычных Няўрадавых Арганізацыяў Беларусі. На кангрэсе разгледжаны стратэгічныя задачы і тактычныя пытанні дэмакратычна арыентаваных грамадскіх арганізацыяў, фармаванне нацыянальных праграмаў супрацоўніцтва няўрадавых арганізацыяў Беларусі і кірункі ўзаемадзеяння з замежнымі партнёрамі.

Больш падрабязна аб Кангрэсе чытайце на 2-й старонцы.

***

У Клімавічах убачылі свет ужо некалькі нумароў інфармацыйнага весніка Клімавіцкай раённай арганізацыі БНФ «Адраджэнне» «Клімавіцкі настрой». Веснік друкуе падрабязную інфармацыю аб дзейнасці арганізацыі БНФ ад суполак да Сойму, аб мясцовых падзеях, перадрукоўвае найбольш цікавыя для клімаўчан публікацыі з цэнтральных незалежных газет. Рэдагуюць «Клімавіцкі настрой» Міхась Шпакаў ды Сяржук Аржанцаў.

***

У Мінску ў 1997 годзе было адкрыта Прадстаўніцтва Савета па міжнародных даследваннях і абменах у Рэспубліцы Беларусь. І хоць маладая гэта арганізацыя, але ўжо шмат добрага зрабіла. З пачаткам яе дзейнасці стала «лягчэй дыхаць» рэгіянальным незалежным сродкам масавай інфармацыі. У межах праграмы для павышэння прафесійнага ўзроўню журналістаў праводзіцца серыя пастаянных семінараў, дзе супрацоўнікі незалежных СМІ вывучаюць асновы авалодання камп'ютэрам, асновы Інтэрнэт, асновы WEB-выдавецтва і інш.

Цёпла страчаюць слухачоў і выдатна арганізуюць работу семінараў дырэктар установы Таіса Бандарэнка, асістэнты праграмы Наталля Смалюк і Павел Запрудскі, каардынатар праграм Пятрок Ягіпка і іншыя супрацоўнікі ўстановы. Слухачы ім за ўсё ўдзячныя.

***

Хоцімск у апошні час значна «пачырванеў». Ужо амаль год тут дзейнічае маладзёвая бепасмольская / БПСМ/ арганізацыя, а мінулай восенню створана і раённая арганізацыя дарослых «чырвоных» – КПБ. Сакратаром «адроджанага» райкома партыі стаў зноў Яўген Сідарэнка, былы першы сакратар РК КПБ, які зараз працуе дырэктарам Бяседавіцкай сярэдняй школы.

Хоцімская «вертыкаль» адразу выдзеліла мясцовым камуністам залу для іх штомесячных сходаў.

Хоцімскія камуністы, а іх зараз 8 чалавек, вядуць размову аб неабходнасці ўсенароднай падтрымкі ўнутранай і знешняй палітыкі А.Лукашэнкі.

***

У Мінску адбыўся трэці З'езд Беларускай асацыяцыі журналістаў.

— Мы не палітычная арганізацыя,— заявіла ў справаздачным дакладзе з'езду Прэзідэнт асацыяцыі Жана Літвіна. – Наша задача – выражаць не волю якой бы там ні было партыі, а паказваць падзеі і факты аб'ектыўна, адлюстроўваць жыццё такім, якім яно ёсць сапраўды.

Бурнымі апладысментамі сустрэлі ўдзельнікі з'езда выступленне экспрэм'ера РБ М. Чыгіра.

— Ва ўсёй Еўропе не знойдзеш дзяржавы, дзе б людзі жылі горш чым на Беларусі,— адзначыў прамоўца,— і я лічу, што першы абавязак журналістаў недзяржаўных СМІ – данесці да людзей усю праўду аб сапраўдным становішчы ў свеце і ў Беларусі.

Большасць выступоўцаў, прадстаўнікоў рэгіянальных СМІ, гаварыла аб праблемах недзяржаўных выданняў, аб уціску уладных структур.

З'езд унёс змяненні і дапаўненні ў Статут БАЖ, прыняў Пастанову, Зварот да журналістаў РБ і Палажэнне аб узнагароджанні ганаровымі дыпломамі БАЖ «За ўсталяванне свабоды прэсы на Беларусі» /друкуюцца на 3-й старонцы/.

***

За 1998 год максімальны памер пенсіі ў Беларусі /без уліку надбавак асобным катэгорыям пенсіянераў/ у пераліку па рынкаваму /»чорнаму»/ курсу наяўнага долара знізіўся ў 3,1 раза – з 40 да 13 долараў. А што гаварыць пра мінімальную пенсію?

Надбаўкі ж да пенсій у лістападзе і снежні нішто ў параўнанні з абвалам цэн на спажывецкія тавары.

***

Да сёлетняй вясны ўсяго 15-20 % калгасаў і саўгасаў змогуць займацца сельскагаспадарчай вытворчасцю, а спад прамысловай вытворчасці па выніках 1999 года складзе да 20 %. Да 2000 года, на думку Нацыянальнага выканаўчага камітэта, трэба чакаць калапсу беларускай эканомікі.

Хутчэй за ўсё А.Лукашэнка ўключыцца ў барацьбу за пост прэзідэнта суседняй дзяржавы. Беларусь можа пайсці на рэзкае абвастрэнне адносін з еўрапейскай супольнасцю і з НАТО – лічыць акадэмік Генадзь Карпенка.

***

Наш прэзідэнт А. Лукашэнка ад душы весяліўся, прыняўшы святочную чарку на дажынках у Нясвіжы ў канцы верасня ў той час, як старэнькія пенсіянеры ва ўсходніх рэгіёнах Беларусі абліваліся слязамі, гледзячы на свае няжатыя палоскі збажыны, дзе каласы даўно схіліся долу і зерне жыта да ячменю ўжо прарасло ў каласах, авёс амаль цалкам асыпаўся на зямлю і толькі яравая пшаніца яшчэ неяк трымалася «на нагах».

І не толькі ў пенсіянераў. У некаторых калгасах і саўгасах усходняга рэгіёну жніво працягвалася аж да 15-20 кастрычніка. А ў калгасе «Перамога» і ў саўгасе «Трасціно» Хоцімскага раёна і сёння засыпаны снегам не адзін дзесятак гектараў няжатых аўса і ячменю.

Дык ці меў права А. Лукашэнка спраўляць дажынкі? Весяліцца? Добры ж гаспадар святкуе дажынкі, калі ў полі не застаецца ніводнага каласка. Прэзідэнт жа — гаспадар усяго беларускага поля. А мо Аляксандр Рыгоравіч так не лічыць?

***

У Беларусі толькі за 9 месяцаў мінулага года алкаголем атруціліся звыш паўтары тысячы чалавек, загінулі ў дарожна-транспартных здарэннях 1400 чалавек, скончылі жыццё самагубствам 2500 грамадзян краіны.

***

Амерыканскія псіхолагі вывучылі жыццёвы шлях 400 знакамітых людзей. Аказваецца, што каля 60 працэнтаў з іх мелі ў школе сур'ёзныя праблемы з паспяховасцю.

***

Жанчыны жывуць больш за мужчын не таму, што ім лягчэй жывецца, а таму, што іх сэрца біялагічна больш трывалае, чым у мужчын.

Мужчыны п'юць больш за жанчын таму, што і пячонка, і страўнік у мужчын і жанчын таксама розныя! Мужчынская пячонка лепш і хутчэй перапрацоўвае алкаголь, а ў жанчын траўнік выдзяляе значна менш дэгідрагеназаў – ферментаў, якія разбураюць алкаголь: амаль увесь выпіты алкаголь трапляе ў крою жанчыны. Гэта і прыводзіць да таго, што жанчыны співаюцца хутчэй за мужчын.

## *Пора подводить итоги*

Знаю — вас долго обманывали.

Знаю — вы устали верить.

Уходящий год был самым тяжелым из всех предыдущих.

Тем не менее, я реалист. А реальность такая, что значительная часть людей живет небогато, не так, как хотелось бы.

Я не прошу у вас президентский портфель.

Я хочу вернуть вам веру в будущее.

Подумайте о судьбе ваших детей.

**Я хочу зажечь хотя бы маленький свет в конце тоннеля, свет надежды в ваших сердцах.**

*А. Лукашенко*



*«Рост цен и инфляция будут остановлены. С 1 сентября 1994 года цены будут заморожены...»*

*«Жизненный уровень, который сегодня у белорусского народа по разным причинам ниже колена, еще ниже быть не может...»*

*«Нам нужна такая демократия, чтобы человек на свои небольшие денежки мог купить немного хлебушка, сметаны, иногда кусочек мяса, чтобы накормить ребенка. Ребенок много не ест. Главное — не пейте горелки и не курите...»*

*Спасибо Вам, Отец родной, что не обманули и удержали жизненный уровень «ниже колена».*

*Правда, из-за отсутствия витаминов в нашем рационе у нас ухудшилось зрение, и мы больше не видим свет надежды в конце темного тоннеля. Но все равно спасибо, что вернули веру в будущее... возможно, и без Вас.*

***Ваши избиратели***

# Фрагменты з выступленняў на Другім Кангрэсе Нацыянальнай Асамблеі Дэмакратычных Няўрадавых Арганізацый Беларусі.

## Уладзімер Роўда
**(старшыня Выканаўчага бюро Асамблеі НДА Беларусі)**

Першыя няўрадавыя арганізацыя (НА) у сучаснай Беларусі пачалі паўставаць яшчэ ў камуністычныя часы, і гэты працэс быў звязаны з жаданнем часткі студэнцкай моладзі, гуманітарнай і тэхнічнай інтэлігенцыі супрацьстаяць татальнай палітыцы русіфікацыі і разбурэння нацыянальнай культуры, якую праводзілі камуністычныя ўлады БССР пад лозунгам хутчэйшай ліквідацыі нацыянальнай адметнасці беларускага народу і уключэння яго ў «новую гістарычную супольнасць людзей – савецкі народ». Патрыятычны рух інтэлігенцыі за адраджэнне роднай мовы, вывучэнне гісторыі Беларусі, захаванне фальклору і помнікаў культуры ўзнік у краіне ў другой палове 60-х гадоў. Ён абапіраўся на даўнія традыцыі, закладзеныя яшчэ ў XIX ст. студэнцкімі аб'яднаннямі філарэтаў і філаматаў, адраджэнскім рухам другой паловы XIX ст., «Нашай Нівай» і нацдэмаўскім рухам у БССР у 20-я гады нашага стагоддзя.

Зімою 1980-1981 г. нарадзіўся «нефармальны» рух моладзі. Студэнты некалькіх мінскіх вышэйшых вучэльняў вырашылі адрадзіць святкаванне Калядаў на вуліцах беларускай сталіцы. Стыхійна ўзнікла аб'яднанне «Беларуская майстроўня». Яно займалася арганізацыяй фальклорных святкаванняў, пастановамі спектакляў у народным тэатры, правядзеннем дыскусіяў па пытаннях беларускай гісторыі і культуры. У 1984 г. прадстаўнікі «Майстроўні» выйшлі на першую неафіцыйную маніфестацыю ў Мінску супраць разбурэння ўладамі будынка, у якім у мінулым стагоддзі адбылася пастаноўка першай беларускай оперы «Сялянка» С. Манюшкі і В. Дуніна-Марцінкевіча. Пасля гэтага «Майстроўня» была пазбаўлена памяшкання ў Палацы Прафсаюзаў і ў хуткім часе распалася.

Другі этап развіцця няўрадавых арганізацый у нашай краіне выпадае на гады перабудовы 1985-1991. Лібералізацыя і развіццё галоснасці дазволілі ў гэты час стварыць шэраг нефармальных (юрыдычна не зарэгістраваных) груповак, у асноўным маладзёжных, якія акрамя культурна-асветніцкай дзейнасці займаліся таксама рэстаўрацыяй гістарычных помнікаў, экалагічнымі пытаннямі, ладзілі вандроўкі, арганізоўвалі літаратурныя чытанні і археалагічныя экспедыцыі. Найбольш вядомымі і ўплывовымі сярод іх былі «Талака», «Тутэйшыя», «Штука», «Касінэр», «Сьвітанак». З 1987 г. нефармальны рух ахапіў усе рэгіёны краіны. Узніклі такія цікавыя і ўплывовыя арганізацыі, як «Узгор'е» (Віцебск), «Паходня» (Гродна), «Маладзік» (Наваполацк), «Беларуская хатка» (Маладзечна) ды інш.

Значны ўплыў на ідэалогію «нефармалаў» аказалі кнігі В. Быкава, А. Мальдзіса, З. Пазняка, жывапіс А. Марачкіна, графіка М. Купавы. У краіне склалася, хаця і не аформілася арганізацыйна, культурная плынь, якая выйшла за межы афіцыйнага сацрэалістычнага кірунку. Гэтая нацыянальна і гуманістычна скіраваная нанканфармісцкая культура стала духоўным падмуркам для адраджэння грамадзянскай супольнасці.

У снежні 1987 г. была здзейснена спроба каардынацыі дзейнасці нефармальных арганізацый у межах краіны. Пад Мінскам адбыўся так званы «Вальны Сойм» – пасяджанне прадстаўнікоў 30 маладзёжных аб'яднанняў. Сойм прыняў рашэнне звярнуцца да Вярхоўнага Савета БССР з хадайніцтвам аб наданні беларускай мове статусу дзяржаўнай.

Як мы бачым, дзейнасць нефармальных арганізацый, за невялікім выключэннем, насіла непалітычны характар. Хуткая палітызацыя «нефармальнага» руху ў Беларусі пачалася пасля таго, як стала вядомай інфармацыя аб трагедыі ў Курапатах, разгоне ўладамі несанкцыянаванага мітынгу 30 кастрычніка 1988 г., з'яўлення ў прэсе дадатковых звестак аб наступствах катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. У кастрычніку 1988 г. было заснавана гісторыка-асветніцкае таварыства «Мартыралог Беларусі», якое ставіла перад сабой мэту — «сказаць праўду аб мільёнах безыменных людзей Беларусі без віны знішчаных у гады сталіншчыны». 24-25 ліпеня 1989 г. у Вільні на ўстаноўчым з'ездзе быў створаны Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» – першая апазіцыйная КПБ-КПСС палітычная арганізацыя ў краіне, якая разгарнула актыўную дзейнасць па кансалідацыі патрыятычных і дэмакратычных сіл у краіне.

Трэці этап развіцця няўрадавых арганізацый пачаўся з дасягненнем Беларуссю незалежнасці ў 1991 г. і працягваўся да дзяржаўнага пераварту, які здзейсніў прэзідэнт Лукашэнка ў лістападзе 1996 г. Ён быў звязаны з такімі працэсамі, як пераход ад «нефармальнага» руху да юрыдычна аформленага «трэцяга сектара», колькасным ростам НА, дэпалітызацыяй і прафесіяналізацыяй няўрадавых арганізацый.

*Паступова павялічвалася* колькасць няўрадавых арганізацый. Па дадзеных Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, на канец 1995 года іх было ўжо каля 1000.

На жаль, ужо з другой паловы 90-х гадоў пачаўся шалёны наступ дыктатарскага рэжыму супраць няўрадавага сектара і грамадзянскай супольнасці. З восені 1996 г. НА Беларусі ўступілі ў чацвёрты, сучасны этап свайго існавання. На сучасны момант у Беларусі зарэгістравана прыблізна каля 2000 НА.

*Пасля дзяржаўнага перавароту,* здзейсненага ў 1996 г., НА Беларусі апынуліся ў цяжкім становішчы. Само слова «няўрадавы» асацыіруецца ў цяперашніх беларускіх чыноўнікаў з словамі «антыўрадавы» і «антыдзяржаўны» і зусім не з-за «падрыўной» дзейнасці беларускіх НА. Галоўная прычына варожага стаўлення цяперашніх уладаў Беларусі да «трэцяга сектара» заключаецца ў характары палітычнага рэжыму сучаснай Беларусі і той антыдэмакратычнай дзяржаўнай ідэалогіі, якую вызнаюць і прапагандуюць яе кіраўнікі і перш за ўсё сам прэзідэнт. Пасля лістападаўскіх падзеяў 1996 г. алігархічны аўтарытарызм трансфармаваўся ў адкрыты рэжым асабістай улады Лукашэнкі, які паступова эвалюцыяніруе ў бок аўтарытарна-таталітарнай дыктатуры, падобнай да існаваўшых у нядаўнім мінулым рэжымаў Чаўшэску ў Румыніі, Дзювалье на Гаіці, Маркаса на Філіпінах і інш. Няўрадавым арганізацыям у такой палітычнай сістэме няма месца па вызначэнні. Яны павінны альбо перайтварыцца ва ўсім нам добра вядомыя па камуністычных часах «грамадскія арганізацыі», альбо проста знікнуць.

Шырокамаштабныя рэпрэсіі супраць НА ў Беларусі пачаліся вясной 1997 г., калі па загаду Лукашэнкі Радай Бяспекі была створана камісія па праверцы фінансавай і іншай дзейнасці буйнейшых НА: Беларускага Фонду Сораса, Цэнтра стратэгічных ініцыятыў «Усход-Захад», Дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля». Удар быў свядома нанесены па арганізацыях, якія мелі добрыя кантакты з замежнымі партнёрамі і аказвалі рэальнае ўздзеянне на грамадскую свядомасць. Вынік праверкі быў загадзя вядомы, і гэтага не хавалі нават самі інспектары. Фонд Сораса, арганізацыю, якая за тры гады працы падаравала беларускай дзяржаве 13 мільёнаў долараў, накіраваных на адукацыю, ахову здароўя, навуку, культуру, развіццё камп'ютэрнай сеткі Internet, аштрафавалі на тры мільёны долараў і прымусілі спыніць сваю дзейнасць у РБ. Супраць кіраўніка Дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля» Генадзя Грушавога ўзбудзілі крымінальную справу і дамагаліся ягонага выезду з краіны. Потым крымінальная справа была спынена з-за яе поўнай неабгрунтаванасці. Цэнтр «Усход-Захад» таксама быў аштрафаваны на вялікую суму і прыпыніў на час сваю дзейнасць.

У 1998 г. незаконныя пераследы няўрадавых арганізацыяў распаўсюдзіліся на ўсю краіну. Галоўнымі метадамі барацьбы ўрада з «трэцім сектарам» сталі наступныя: адмовы ў рэгістрацыі ці зацягванне тэрмінаў рэгістрацыі, ціск на кіраўнікоў і актывістаў НА, адмовы ў выдзяленні памяшканняў для правядзення мерапрыемстваў, штрафы, завышаныя тарыфы, выдзяленне нязручных месцаў для правядзення акцый пратэсту, паклёпніцкія кампаніі ў дзяржаўных СМІ.

Усведамленне многімі мінскімі і рэгіянальнымі НА таго, што без каардынацыі сваіх намаганняў немагчыма вырашыць многія праблемы і процістаяць ціску з боку ўладаў прывяло да стварэння ў лютым 1997 г. Асамблеі беларускіх дэмакратычных НА.

Структурныя падраздзяленні Асамблеі былі створаныя з мэтай выканання пэўных, вельмі важных функцый гэтага нефармальнага аб'яднання.

Выканаўчае Бюро Асамблеі было створана рашэннем Рабочай групы ў верасні 1997 г. як прафесійная структура, справаздачная перад РГ.

Расце міжнародны імідж Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацый Беларусі. У канцы 1997 года каардынатар РГ Асамблеі Генадзь Грушавы прадстаўляў беларускі «трэці сектар» на канферэнцыі АБСЕ ў Варшаве. Асамблея падтрымлівае вельмі шчыльныя сувязі з няўрадавымі арганізацыямі і фондамі ЗША, Германіі, Польшчы, Швецыі, Расіі, Украіны, Чэхіі, Літвы, Венгрыі ды некаторых іншых краін.

Аб пазітыўным развіцці Асамблеі яскрава сведчыць той факт, што расце колькасць арганізацый, якія далучаюцца да гэтай структуры. Зараз у склад Асамблеі ўваходзіць ужо больш за 520 НА.

У маі-ліпені 1998 года ў Брэсце, Віцебску, Магілёве і Гомелі прайшлі абласныя форумы дэмакратычных няўрадавых арганізацый, вынікам якіх стала стварэнне Гродзенскай, Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абласных Асамблей дэмакратычных НА. У верасні – былі ўтвораны Асамблеі Брэсцкай і Мінскай вобласці. Паралельна развіваецца працэс кансалідацыі няўрадавых арганізацый на ўзроўні гарадоў абласнога падпарадкавання і належных да іх рэгіёнаў. У Навагрудку, Лідзе, Пінску, Оршы, Крычаве, Салігорску і некаторых іншых гарадах функцыяніруюць клубы арганізацый, якія ўваходзяць у Асамблею дэмакратычных НА.

Структурызацыя Асамблеі – гэта не самамэта, а сродак для актывізацыі дэмакратычнага «трэцяга сектара». Яна накіравана на пераадоленне ўнутранай замкнёнасці арганізацый і іх адарванасці ад рэальных сацыяльна-палітычных працэсаў у беларускім грамадстве, на стварэнне перадумоў для пераходу ад палітыкі выжывання да палітыкі экспансіі грамадзянскай супольнасці ў Беларусі.

## Виктор Чернов
**(исполнительный директор Фонда «Адкрытае грамадства»)**

Утверждение эффективной и стабильной демократии невозможно без коренных изменений в политической культуре населения, формирования массового менталитета, адекватного рыночной экономике и плюралистической демократии. Ключевое позитивное значение для осуществления этих изменений имеет гражданское, в том числе демократическое политическое образование и просвещение.

Основное бремя ответственности за создание общенациональной системы гражданского образования в Беларуси ложится теперь на «третий сектор», независимые СМИ и оппозиционные партии. И хотя правящий режим стремится монополизировать руководство политическим образованием, отстранить от равноправного участия в его организации демократические партии и НПО, именно от их активной работы зависят сегодня перспективы формирования в нашей стране массовой политической культуры гражданского типа.

Логика развития образовательской и просветительской деятельности белорусских демократических НПО вплотную приблизила нас к необходимости создания в стране постоянно действующей, многоступенчатой и разветвленной системы гражданского образования для самых широких слоев населения. Назначение системы – предоставить заинтересованному гражданину возможность получить глубокие и систематизированные знания по гражданской проблематике на базовом уровне с вероятной перспективой перехода на продвинутый курс.

Гражданское образование должно стать одним из приоритетных направлений деятельности Ассамблеи белорусских демократических НПО. Предлагаю разработать Национальную программу гражданского образования в Беларуси с координирующим центром в Ассамблее. Накопленный опыт и механизмы Ассамблеи вполне позволяют надеяться на успех.

## Карлас Шэрман

Калі мець на ўвазе стан грамадства, амбіцыі недальнабачных палітыкаў і метадычнае руйнаванне дэмакратыі, еднасць трэцяга сектара набывае рэзананс гістарычнай падзеі. Сотні няўрадавых арганізацый, захаваўшы цалкам уласны статус самакіравання, яднаюцца не з мэтай стварэння парасонавай інстытуцыі, а дзеля шматаблічнай каардынацыі ўласнай ды супольнай дзейнасці.

Відавочна, гэта высоўвае на першы план патрабаванні да арганізаванасці ў кірунку ўзаемнай сувязі. Сэнс еднасці дэмакратычнага кшталту *можна вызначыць формулай: ведайма ўсё,* што адбываецца паўсюль. Толькі тады магчыма рэальна засвойваць, чым і як падтрымліваць мясцовую ініцыятыву на карысць грамадзянскай супольнасці. Толькі тады ўся Беларусь даведаецца пра добрыя справы нашых суайчыннікаў і пра тое, што робіцца супраць законнасці і дэмакратыі на месцах. Толькі тады падтрымка рэгіёнаў стане эфектыўнай з'явай...

Адна з самых гарачых праблемаў Беларусі, якая моцна актуалізавалася апошнім часам, гэта стварэнне і развіццё прафашысцкіх арганізацый ваенізаванага кшталту, часта пад прыкрыццём статуса грамадскага аб'яднання. Пачалася хваля пасля прапаганды «новага парадку» ў Беларусі, як і ў іншых краінах былога СССР.

Сёння ў Мінску і іншых буйных гарадах краіны надта лёгка можна набыць атручаныя крымінальнай ідэалогіяй творы альбо перыёдыку, атрымаць улёткі з чырвонай стылізаванай свастыкай, прысутнічаць на сходах, якія адбываюцца каля сталічнага Помніка Перамогі, перамогі над іх нямецка-фашысцкімі калегамі. Гэтыя сходы – здзек з народа, што выпакутаваў свабоду на вайне, а цяпер яшчэ і мае на парозе свайго дому не адраджэнне вольнай радзімы, а вяртанне фашызму.

Улады вядуць сябе настолькі *тактоўна з прафашыстамі, што міжволі* ўзнікае пытанне пра ідэалагічную прыроду саміх носьбітаў той улады. Асабліва, калі параўнаць з паводзінамі да імі ж зняважаных, збітых і кінутых у турмы дэмакратаў.

Галоўны ўнёсак трэцяга сектара – гэта ўдзел у маніторынгу апаратыўным інфармаваннем грамадства, бо трэба публічна ставіць дакладны дыягназ і распаўсюдзіць праўдзівыя веды ўсімі магчымымі спосабамі.

Рэальна ў нейкай ступені мы страцілі ініцыятыву, своечасова не звярнулі ўвагу на пагрозу пятай калоны чалавецтва, якая падкралася да нас. Але трэці сектар, які крок за крокам дасягнуў, нарэшце. еднасці, спеласці, сталасці, неўзабаве ўсвядоміць *уласную моц. Гэта нашыя спадзяванні і нашыя пажаданні.*

## Александр Потупа

Самые опасные сценарии развития Беларуси, о высокой вероятности реализации которых я говорил 3-4 года назад, к сожалению, воплощаются в почти лабораторно чистой форме. В государственном секторе общества установлена четкая диктатура – президент имеет возможность совершенно бесконтрольно управлять армией чиновников. С этого плацдарма ведется интенсивная тоталитаризация экономики и 3-го сектора. С экономикой все понятно – она испытала своеобразный антирыночный фазовый переход. Фактически это уже административно-командная экономика, точнее – по функциональным признакам – репрессивно-экспроприационная. Остатки легального предпринимательства методично ликвидируются либо выдавливаются из страны. Последствия уже ясно просматриваются на прилавках и в кошельках: по средним зарплатам и пенсиям Беларусь находится в числе самых нищих стран Европы, и остается совсем немного до полного торжества талонно-распределительной системы. В сущности, эквивалентный фазовый переход испытала и официальная внешняя политика – Беларусь начисто вылетела из европейского политико-правового пространства.

Идет мощное наступление на демократически ориентированный 3-й сектор. Сосредоточенные здесь общественные организации (включая и фактически полностью вытесненные из структур государственного управления оппозиционные партии), негосударственные СМИ, аналитические центры полностью лишены не только государственной поддержки, но, по сути, и поддержки коллапсирующего отечественного бизнеса. В этих условиях деятельность в руинах белорусского гражданского общества – своеобразное подвижничество. Отнюдь не стремясь заниматься политикой, сотни организаций и общественных лидеров фактически оказываются в рядах оппозиции со всеми вытекающими отсюда последствиями.

***Чацвертая улада***

# Пастанова 3-га справаздачнага з'езда Беларускай асацыяцыі журналістаў

Трэці з'езд Беларускай асацыяцыі журналістаў канстатуе, што мінулы год быў адзначаны ўзмацненнем ціску ўладаў на сродкі масавай інфармацыі. Папраўкі і дапаўненні, унесеныя ў заканадаўчыя акты, выданне падзаконных дакументаў у значнай ступені абмежавалі для грамадзянаў свабоду слова, свабоду думак, перакананняў і іх вольнае выказванне.

Узмацняецца эканамічны і падаткавы ціск на недзяржаўную прэсу. Дзяржаўныя СМІ уключаны ў сістэму дзяржаўнага кіравання, журналісты практычна ператвораны ў служачых... У гэтых умовах БАЖ ажыццяўляе сваю дзейнасць у адпаведнасці з уласным Статутам, на падставе Канстытуцыі і заканадаўства Рэспублікі Беларусь, а таксама Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека ды іншых міжнародных дакументаў, якія Беларусь абавязалася выконваць. За справаздачны перыяд асацыяцыя, яе кіруючыя органы шмат зрабілі, абараняючы журналістаў і СМІ, адстойваючы іх права на свабоднае атрыманне і распаўсюджванне інфармацыі. Вядзецца маніторынг фактаў парушэння заканадаўства, кіраўніцтва БАЖ паведамляе пра іх публічна грамадскасці і ўладам, даводзіць да ведама міжнародных аргнізацый.

Сумесна з расійскім Фондам абароны галоснасці выдадзена кніга «Улада і прэса на Беларусі: хроніка супрацьстаяння». Працягваецца выпуск бюлетэня «Чацвёртая ўлада», які выходзіць на трох мовах і распаўсюджваецца ў краіне і за яе межамі. У ім журналісты абмяркоўваюць свае праблемы, друкуецца хроніка неаб'яўленае вайны, якую ўлады вядуць супраць недзяржаўных СМІ.

Ажыццяўляецца шэраг адукацыйных праграм. У тым ліку семінары ў Беларусі, Расіі, краінах Еўропы, стажыроўкі ў рэдакцыях буйнейшых выданняў, абмен групамі журналістаў Беларусі і Расіі.

Працуе «Беларускі Калегіюм» – незалежная адукацыйная інстытуцыя, якая рыхтуе, у прыватнасці, будучых журналістаў.

Адным з найбольш важных напрамкаў работы асацыяцыі з'яўляецца работа з рэгіянальнымі арганізацыямі. Пасля 2-га з'езда іх колькасць вырасла з 5 да 16-ці, у ліку сябраў асацыяцыі з'явіліся калегі больш як з 20 раённых цэнтраў, у той час як год таму іх амаль не было.

У значнай ступені за кошт рэгіёнаў агульная колькасць сябраў БАЖ за справаздачны перыяд амаль падвоілася: з 306 да мінулага з'езду да 570, якія прадстаўляюць больш за 100 выданняў.

З'езд Беларускай асацыяцыі журналістаў ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Лічыць работу праўлення і рады БАЖ станоўчай.
2. Ва ўмовах, калі працягваецца абмежаванне правоў грамадзян на свабоду слова, свабоду думак, перакананняў і іх вольнае выказванне, фактычнае ўвядзенне насуперак Канстытуцыі дзяржаўнай цэнзуры, лічыць сваёй галоўнай задачай барацьбу за прафесійную годнасць, права на свабоднае атрыманне і распаўсюджванне інфармацыі.
3. Працягнуць практыку правядзення маніторынгу парушэнняў заканадаўства аб прэсе, па выніках мінулага года выдаць кнігу «СМІ і ўлада Беларусі».
4. Сумесна з калегамі з расійскага Фонду абароны галоснасці, журналісцкіх арганізацый іншых краін рэалізаваць праект абмену журналісцкімі групамі з мэтай узаемнага азнаямлення з сітуацыяй у нашых краінах.
5. Цэнтру абароны галоснасці працягнуць практыку юрыдычнай дапамогі журналістам.

## Зварот удзельнікаў III З'езда Беларускай асацыяцыі журналістаў да журналістаў Рэспублікі Беларусь

Мінулы 1998 год быў адзначаны ўзмацненнем ціску афіцыйных улад на недзяржаўныя СМІ. Папраўкі і дапаўненні, унесеныя ў Закон «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі», гранічна абмежавалі канстытуцыйныя правы грамадзян на свабоду слова і інфармацыі, адкрылі шырокую прастору для чыноўніцкай нарматворчасці.

Выканаўчая ўлада шляхам выдання падзаконных актаў рэгулярна парушае палажэнні Канстытуцыі, якія гарантуюць грамадзянам права на атрыманне, захоўванне і распаўсюджванне інфармацыі, на свабоду думак, перакананняў і іх вольнае выказванне. Справа дайшла да таго, што ў дзейнасць СМІ ўмешваюцца ўжо не толькі ведамствы, але і асобныя дзяржаўныя чыноўнікі. Пачатак быў пакладзены пісьмом саўмінаўскага чыноўніка Б. Балажынскага, якім прадпісвалася не прадастаўляць інфармацыі так званай апазіцыйнай прэсе і пазбавіць яе эканамічнай падтрымкі, забараніўшы размяшчэнне рэкламы. Пачын падхапілі рэгіянальныя структуры выканаўчай улады. У прыватнасці, некаторыя абласныя ўпраўленні па кантролі за выкананнем заканадаўства ў друку выносяць мясцовым выданням папярэджанні за быццам бы дапушчаныя парушэнні патрабаванняў арт. 5 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі».

Узмацняецца эканамічны ціск на недзяржаўную прэсу. Аб гэтым сведчаць і новыя ініцыятывы падатковых службаў. Прыватныя газеты сталі разглядацца як аб'екты гаспадарання, якія могуць быць закрытыя рэгістроўчым органам у выпадку іх нерэнтабельнасці.

Сёння дзяржаўныя СМІ ўключаны ў сістэму дзяржаўнага кіравання, а журналісты практычна ператвораны ў дзяржслужачых. З-за такога свайго становішча яны абавязаны без пярэчанняў выконваць любыя ўказанні шматлікіх начальнікаў, ахвяруючы пры гэтым сваім прафесійным сумленнем.

Ва ўмовах, калі ўладныя структуры робяць усё больш жорсткім кантроль за дзейнасцю недзяржаўных СМІ, журналісты павінны захоўваць вернасць прынцыпам прафесійнай журналістыкі і дзейнічаць у адпаведнасці з патрабаваннямі закону. Неабходна адказна рыхтаваць інфармацыйныя і аналітычныя матэрыялы, якія павінны быць дакладнымі, аб'ектыўнымі і непрадузятымі.

БАЖ звяртаецца да цяперашняй беларускай улады з патрабаваннем шанаваць і безумоўна выконваць Канстытуцыю і законы Рэспублікі Беларусь, не падмяняць іх палажэнні падзаконнымі актамі, ведамаснымі ўказаннямі і пісьмамі чыноўнікаў. Запаўненні афіцыйных асоб ад улады аб сваёй прыхільнасці да дэмакратычнага ўладкавання Беларусі павінны быць падмацаваны прыняццем канкрэтных мер і па выкананні міжнародных абавязацельстваў нашай дзяржавы ў галіне захавання і абароны правоў чалавека, у тым ліку свабоды слова і інфармацыі.

БАЖ звяртаецца да калег, якія працуюць у дзяржаўных СМІ, з заклікам не адступаць ад прынцыпаў журналісцкай этыкі, паважаць гонар і годнасць грамадзян краіны, якія маюць іншы пункт погляду на працэсы, што адбываюцца ў Беларусі, заўсёды памятаць адну з асноўных журналісцкіх запаведзяў: калі не можаш гаварыць праўду, то хаця б не хлусі.

БАЖ звяртаецца да дэмакратычнай грамадскасці краіны з заклікам усяляк садзейнічаць развіццю ў Беларусі недзяржаўных СМІ, накіроўваць свае намаганні на пазбаўленне ад дыктату ў сферы грамадскай інфармацыі, манапольнага валодання і распараджэння дзяржавай сродкамі масавай інфармацыі, у прыватнасці, тэлебачання і радыё.

БАЖ звяртаецца да міжнародных арганізацый, і ў першую чаргу да журналісцкіх, з прапановай узмацніць падтрымку недзяржаўных СМІ Рэспублікі Беларусь, якія ўяўляюць сабой важнейшы інстытут дэмакратычнага грамадства.

Толькі ў тым грамадстве, дзе існуюць незалежныя і плюралістычныя сродкі масавай інфармацыі, магчыма рэалізацыя свабоды слова, іншых правоў і свабод чалавека.

## Няўдалы год

Па інфармацыі міністэрства працы Рэспублікі Беларусь, сёлета ў краіне афіцыйна святочнымі будуць дзевяць дзён, з якіх пяць супадаюць са звычайнымі днямі адпачынку.

Так, у адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Беларусі ад 26 сакавіка мінулага года нерабочымі днямі ў 1999 годзе з'яўляюцца: 1 студзеня – Новы год, 7 студзеня – Каляды /праваслаўныя/, 8 сакавіка – Дзень жанчын, 20 красавіка – Радаўніца /праваслаўная/, 1 траўня – Свята працы, 9 траўня – Дзень Перамогі, 3 ліпеня – Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь /Дзень Рэспублікі/, 7 лістапада – Дзень Кастрычніцкай Рэвалюцыі, 25 снежня – Каляды /каталіцкія/.

З 365 каляндарных дзён сёлета 257 будуць рабочымі і 108 – днямі адпачынку.

З агульнай колькасці рабочых дзён сёлета шэсць з'яўляюцца перадсвяточнымі, у якія пры пяцідзённым рабочым тыдні працягласць работы скарачаецца на адну гадзіну. Такімі днямі з'яўляюцца 6 студзеня, 19 і 30 красавіка, 2 ліпеня і 31 снежня.

## Палажэнне Аб узнагароджанні ганаровым дыпломам БАЖ «За ўсталяванне свабоды прэсы на Беларусі»

1. Ганаровым дыпломам БАЖ «За ўсталяванне свабоды прэсы на Беларусі» ўзнагароджваюцца персанальна сябры БАЖ, якія ўнеслі істотны ўклад у развіццё незалежных сродкаў масавай інфармацыі ў Рэспубліцы Беларусь.
2. Узнагароджанне названым дыпломам праводзіцца па выніках чарговага каляндарнага года і прымяркоўваецца да Сусветнага дня свабоды друку (3 мая).
3. Заслугі саіскальніка ва ўсталяванні свабоды прэсы павінны атрымаць грамадскае прызнанне, у тым ліку і сярод журналістаў.
4. Кандыдатуры саіскальнікаў на ўзнагароджанне ганаровым дыпломам БАЖ могуць вылучаць сябры Рады БАЖ, калектывы рэдакцый газет, рэгіянальныя арганізацыі БАЖ.

На кожнага саіскальніка складаецца кароткая рэкамендацыя, у якой адзначаецца, за што канкрэтна саіскальнік прадстаўляецца да ўзнагароды.

5. Саіскальнікі вылучаюцца пасля заканчэння каляндарнага года, да 1 сакавіка наступнага года ўключна.

Прапановы аб саіскальніках ганаровага дыплома і іх кароткія рэкамендацыі накіроўваюцца старшыні журы або яго намесніку.

Не пазней чым 25 сакавіка кожнага года на паседжанні журы праводзіцца абмеркаванне кандыдатур саіскальнікаў.

6. Са спіса прапанаваных кандыдатур журы адбірае не больш чым 9 саіскальнікаў.

Зацверджанай лічыцца кандыдатура таго саіскальніка, які атрымаў большасць галасоў сяброў журы.

Па кожнаму прынятаму рашэнню складаецца пратакол, які падпісваецца старшынёй (пры яго адсутнасці – намеснікам старшыні) і сакратаром.

Адносна кожнага лаўрэата даецца дакладная фармулёўка, за што прапануецца ўзнагародзіць яго ганаровым дыпломам БАЖ.

7. Рашэнне журы аб узнагароджанні ганаровым дыпломам БАЖ дакладваецца старшынёй (намеснікам старшыні) журы на чарговым паседжанні Рады БАЖ і ўступае ў сілу пасля зацвярджэння Радай БАЖ.

Сябры Рады БАЖ могуць заявіць адвод некаторым саіскальнікам ганаровага дыплома, абгрунтаваўшы матывы адводу. Калі будзе прызнана, што матывы адводу заслугоўваюць увагі, то журы мае права на працягу 5 дзён перагледзець сваё рашэнне ў адносінах да гэтага саіскальніка. У такім выпадку склікаецца паседжанне журы і складаецца пратакол, у якім абгрунтоўваюцца матывы змены рашэння.

8. Пасля зацвярджэння Радай БАЖ рашэнне журы абвяшчаецца публічна і перадаецца ў сродкі масавай інфармацыі.
9. Ганаровыя дыпломы маюць парадкавы нумар (з моманту іх заснавання 3-м З'ездам БАЖ ад 16 студзеня 1999 года) і ўручаюцца персанальна канкрэтнаму лаўрэату.

Паўторнае ўзнагароджанне ганаровым дыпломам БАЖ не дапускаецца.

10. Кожны лаўрэат заносіцца ў Кнігу гонару БАЖ, дзе змяшчаюцца кароткія біяграфічныя звесткі лаўрэата, нумар дыплома, дата ўзнагароджання і фармулёўка ўзнагароджання. У Кнізе гонару БАЖ змяшчаецца таксама фотаздымак лаўрэата і яго персанальны подпіс.
11. Лаўрэат ганаровага дыплома БАЖ узнагароджваецца каштоўным падарункам.

## Бацькоўскі клопат

Прачытаў я ў газеце Дэкрэт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусі № 19 ад 19 лістапада 1998 года і бачу: наш «усенародна выбраны» дабра жадае далёка не ўсяму народу, які яго выбраў. Ён імкнецца задобрыць перш-найперш чыноўнікаў, што працяраюць штаны ў выканкомах ды іншых дзяржаўных установах, тых, хто корміцца за кошт мазолістых рук рабочых і сялян, стваральнай працы інжынерна-тэхнічнага персаналу.

Прэзідэнт клапоціцца пра забяспечаную старасць не тых, хто арэ, сее і збірае ўраджай, хто корміць жывёлу, працуе на фабрыках і заводах, у лабараторыях, канструктарскіх бюро, у школах і бальніцах. Бацькоўскі клопат праяўляе Лукашэнка аб сваіх памагатых – дзяржслужачых. Для іх якраз і гэты дэкрэт № 19. Каб яны нават пры роўных заробках з усімі намі атрымлівалі пенсію значна большую, чым мы.

Давайце падлічым.

Возьмем, напрыклад, такі выпадак: сярэднемесячны заробак (з улікам індывідуальнага каэфіцыенту) за 5 гадоў запар з апошніх 15 год працы аказаўся ў інжынера Іванова, даяркі Сідаравай, настаўніка Пятрова, трактарыста Казлова, урача Прошкінай, слесара Астахава, старшыні сельсавета Падхалімава, інструктара райвыканкама Задлізавай аднолькавым, скажам 7 973 800 рублёў. Усім гэтым грамадзянам 1 снежня споўнілася па 60 год – мужчынам, 55 год – жанчынам. І ўсе яны афармліліся на пенсію з 1 снежня. Пералічаныя мужчыны маюць працоўны стаж 45 год кожны, жанчыны – 40. Пры гэтым Падхалімаў і Задлізава па 20 год працавалі ў дзяржустановах, астатнія – у народнай гаспадарцы, па 20 год і больш на адным месцы працы.

Здаецца, па логіцы, і пенсія павінна быць усім аднолькавая. Але дэкрэт Лукашэнкі № 19 роўнасці не дапускае. Паводле гэтага дэкрэта, для вылічэння пенсіі старшыні сельсавета і інструктару райвыканкама будзе ўлічвацца 10 мінімальных зарплат – 5 000 000 руб. – цалкам, а з астатняй сумы 2 973 800 руб. /7 973 800 - 5 000 000/ - 50 %, г.зн. 1 486 900 рублёў. А ўся сума для вылічэння пенсіі складзе 6 486 900 рублёў. Пенсія – 75 % гэтай сумы – складзе 4 865 200 рублёў. Астатнім жа – інжынеру, даярцы, настаўніку, трактарысту, урачу і слесару па Закону аб пенсіях для вылічэння пенсіі будзе ўзята сума толькі 4 385 590 рублёў і налічана пенсія – 75 % з гэтай сумы – 3 289 200 рублёў.

Выходзіць, чыноўнікам Лукашэнка дае пенсію на 1 576 000 рублёў большую, чым калгаснікам, рабочым і служачым пры роўных заробках і працоўным стажы.

Вось так няроўна дзеліць пенсіі паміж роўнымі людзьмі наш клапатлівы бацька-прэзідэнт.

Задумайцеся, людзі, каго выбіраць!

*Юрась Скрыпка,*
*г. Мсціслаў.*

# Нам ёсць чым ганарыцца



*на здымку: Помнік беларускаму першадрукару Пятру Мсціслаўцу ад удзячных землякоў у горадзе Мсціславе.*

*Фота В. Бысава*

## Першыя лонданскія друкары – беларусы.

Брытанскі гісторык Гай Пікарда, які ўдзельнічаў у 1993 годзе на ўрачыстасцях у Полацку з нагоды 500-х угодкаў Францішка Скарыны, паведаміў, што беларусы мелі самае непасрэднае дачыненне да заснавання першых друкарняў у брытанскай сталіцы.

Напрыканцы XV стагоддзя ў Лондане пасяліўся Ян з Літвы, ці проста Ян Літвін. Шэраг гісторыкаў лічаць яго вучнем вядомага друкара Мацея Мараўскага. Ён працаваў у Генуі і Неапалі. Верагодна, што Ян Літвін быў выпускніком Пражскага Універсітэта.

Атрымаўшы ў Еўропе адукацыю і спецыяльнасць друкара, Ян Літвін перабіраецца ў Альбіён, дзе ў тыя часы яго чакала меншая канкурэнцыя, чым у цэнтрах кнігадрукавання на мацерыку.

Упершыню з'яўленне яго ў Лондане ўпамінаецца ў 1480 годзе. Ён быў першым друкаром у Лонданскім Сіці.

Спачатку з яго друкарні выходзіць некалькімі выданнямі антытурэцкая індульгенцыя Рымскага Папы Сікста IV. Затым лацінамоўны трактат «Разважанні пра дванаццаць кніг з метафізікі». 1841 годам пазначаны «Каментары да псалму». У гэтым жа годзе наш зямляк аб'ядноўвае намаганні з прыехаўшым друкаром Вільямам Мехлінскім.

Удвух майстры набываюць больш дасканалы шрыфт і адкрываюць у Лондане новую друкарню паблізу гэтак званай Вялікай царквы Усіх Святых. Друкарня кампаньёнаў спецыялізуецца затым на выданні юрыдычнай літаратуры. Але, пачынаючы з 1483 года, імя нашага суайчынніка з тытульных аркушаў знікае.

Ян Літвін перабіраецца бліжэй да радзімы, у Кракаў. У Кракаўскай друкарні ў 1491 годзе выйшлі першыя славянскія кнігі кірыліцай. Гэта «Октоих» і «Часослов», што знайшлі попыт на беларускіх і украінскіх землях. Вельмі верагодна, што ў падрыхтоўцы іх да друку прыдаўся багаты досвед лонданскага першадрукара.

Да выхаду ў свет «Псалтири» Францішка Скарыны – першай беларускай і ўсходнеславянскай кнігі – заставалася яшчэ чвэрць стагоддзя.

*А. Арлоў.*

**«Беларускі Усход».**
**Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета.**
**На беларускай і рускай мовах.**
**Заснавальнік: працоўны калектыў рэдакцыі.**

**Адрас рэдакцыі: 213670, Магілёўская вобл.,**
**Хоцімскі р-н, в. Маркаўка, д.35,**
**Тэлефоны ў Хоцімску: галоўнага рэдактара 22-9-89,**
**намесніка галоўнага рэдактара 22-0-09.**

**Падпісны індэкс – 64098.**
**Рэгістрацыйны № 141.**

**Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.**
**Адказнасць за дакладнасць фактаў, падзей, прозвішчаў і іншай інфармацыі нясуць аўтары апублікаваных матэрыялаў.**
**Рукапісы, здымкі і малюнкі не рэцэнзіруюцца і не вяртаюцца аўтарам.**

**Газета падпісана да друку ў «10» гадзін 02.02.1999 г.**
**Надрукавана на абсталяванні СПБ. Аб'ём 1 друкаваны аркуш.**
**Кошт свабодны.**
**Тыраж 3000 экз. Заказ № 7**
**Галоўны рэдактар В.А.Даўгалёў.**

***Лісты чытачоў***

## Хто давёў нас да жабрацтва?

Улады сцвярджаюць, што мы жывем усё лепш і лепш. А на самой справе? У чэрвені 1994 года, калі на фініш выходзіла прэзідэнцкая гонка і Аляксандр Лукашэнка абяцаў «пасадзіць усіх жулікаў» /бо, маўляў, гэта з-за іх народ дрэнна жыве/, «запусціць» заводы, знізіць цэны і праз кароткі час ператварыць Беларусь у квітнеючы край, сярэдні заробак тады ў краіне складаў 531 тысячу рублёў у месяц. За гэтыя грошы у той час можна было купіць 1470 боханаў хлеба. Каб узняць дабрабыт, Лукашэнка, стаўшы прэзідэнтам, прасіў на папраўку спраў 8 месяцаў. Прайшло амаль 5 гадоў. І пры Лукашэнку, у снежні сярэдні заробак склаў 8 527 189 рублёў: узрос у 16 разоў! Але... хлеба за гэтыя грошы ў гэты час можна было купіць ужо толькі 480 боханаў – у тры разы менш, чым 4 гады раней. Вось як мы «пабагацелі» пад «мудрым» кіраўніцтвам выбранага намі ж прэзідэнта.

Дык хто, людзі, давёў нас жа жабрацкага жыцця? Урад? Прэзідэнт? Ці ўся «вертыкаль»?

*А.Ясенка,*
*г. Касцюковічы.*

## Прэм'ер нас яшчэ і ганьбіць!

Выступаючы 23 кастрычніка мінулага года прэм'ер-міністр Сяргей Лінг папракаў сялян за іх дрэнную працу. Даводзіў, што прамысловыя прадпрыемствы «б'юцца, як рыбка аб лёд, знаходзяць рынкі збыту сваёй прадукцыі, выпускаюць новыя, канкурэнтаздольныя тавары. Паглядзіце на нашы тэлевізары, трактары, халадзільнікі, аўтобусы, тралейбусы, элетроніку, мэблю. Іх закупляюць з ахвотай нават за мяжой. Дык да якога часу ў сельскай гаспадарцы мы будзем мець 2000 кг малака, атрымліваць 10 ц зерня з гектара, 80 ц бульбы...» – гаварыў ён.

Паважаны прэм'ер! Да тае пары, пакуль Вы, Урад і прэзідэнт будзеце зневажаць нас жабрацкімі заробкамі і жудасным непарытэтам цэн. Калі Пётр І здзіраў, па словах Сталіна, з народа тры скуры, а сам Сталін – сем, то Вы зараз здзіраеце ўсіх семдзесят сем! Дык хто ж пры такім прыгоне будзе высокапрадукцыйна працаваць?

Нават пры савецкай уладзе селянін за карову мог купіць тэлевізар і добранька абмыць пакупку каньякам, і на закусь яшчэ заставалася нешта, а вы давялі вёску да ручкі – цяпер за тэлевізар селяніну трэба прадаць тры каровы. З другога боку, нашу бульбу таксама нарасхват узялі б суседзірасіяне за добрую капейчыну, а вы забаранілі нам прадаваць яе за мяжу.

З трэцяга боку, вазьміце Вы з Лукашэнкам сабе аклады не па 2-3 мільёны нават, як у сялян, а хоць бы па 10 мільёнаў. Як Вы заспяваеце? Як пачнеце «біцца аб лёд»?

*Астах Сямёнаў,*
*Клімавіцкі раён.*

## Рабочыя не вераць

Кожная гадавіна з дня заснавання Мінскага трактарнага завода адзначаецца з шырокім размахам, пампезна. На плошчы перад цэнтральнай прахадной выстройваецца ў шэраг узоры новай тэхнікі, выступаюць артысты, робяць скачкі парашутысты.

Колькі грошай траціцца на гэтыя «мерапрыемствы»?! А на які ляд усё гэта патрэбна, калі ў рабочых механічнага цэха № 2, аднаго з асноўных на заводзе, нервы ўжо на мяжы трываласці? Заробкі ў 6-6,5 мільёны рублёў пры сённяшніх цэнах выглядаюць проста насмешкай з рабочых.

Нашы рабочыя ўжо ні ў што не вераць, неразумна было б гаварыць, што хтосьці з нас згодзен з палітыкай прэзідэнта і яго ўрада.

Дырэктар завода ў адказ на нашыя патрабаванні павялічыць заробкі толькі разводзіць рукамі: маўляў, нічым дапамагчы не магу.

Сам жа ён і нашае цэхавае начальства сядзяць на добрых акладах і наш лёс іх не хвалюе. Значыць, нас чакае не толькі голад, але і холад... Бо за харчы і цяпло нам няма чым плаціць.

Вось такое наша жыццё.

*В.Яроменка,*
*рабочы МТЗ,*
*г. Мінск.*

## Новая супердзяржава будзе!

У распадзе СССР абвінавачваюць тройку Прэзідэнтаў. Але гэта – дзіцячы лепет. Распад СССР – гістарычная заканамернасць. Проста гэтай тройцы выпала такая доля.

Успомніце: распаліся Вавілон, імперыі Аляксандра Македонскага і Рымская, Візантыя, а ўжо ў нашым стагоддзі – Вялікабрытанія і СССР.

Зараз на планеце Зямля няўстойлівы стан – існуе адна супердзяржава, ЗША, і адзіны ваеннапалітычны блок – НАТО. І гэта непазбежна вядзе да барацьбы за «перадзел свету». Дакладней – да новай сусветнай вайны.

Як натуральны шлях гістарычнага развіцця ўзнікла непазбежнасць з'яўлення супрацьвагі. Гэта значыць, што створанне на еўрапейска-азіяцкай тэрыторыі новай супердзяржавы ці новага ваеннапалітычнага комплекса – прадвызначана.

Адны недальнабачныя палітыкі бачаць вырашэнне праблемы ў адраджэнні былога СССР, бо проста не разумеюць гістарычнай логікі. Другія (як А.Лукашэнка) хочуць аб'яднацца ў адзіную дзяржаву. І гэта таксама не лагічна (калі не сказаць – немагчыма). Гісторыя патрабуе (і прывядзе да гэтага) стварэння новай моцнай злучнасці народаў. Непазбежна ўзнікне новая супольнасць (Саюз) суверэнных дзяржаў – самая магутная з раней існаваўшых. Спачатку пад сцягі гэтай супольнасці стануць славянскія народы, затым да іх далучацца многія азіяты (нават раней не ўваходзячыя ў СССР) і прыбалты.

У цэнтры гэтага саюза стане менавіта Беларусь. І на Беларусі суджана быць сталіцы саюза. Бо Беларусь – цэнтр Еўропы. Маскве ўжо не быць агульнай сталіцай. Час яе скончыўся.

Толькі аб'яднанне адбудзецца не праз год-два. А пасля таго, як канчаткова распадзецца Расія, што непазбежна.

*Якуб Зорын,*
*г. Орша.*

***Сам сабе доктар***

## Грипп? Лучше без таблеток...

Очень вредна и опасна реклама, представляющая аспирин как мощное антигриппозное средство.

Никогда не надо принимать аспирин при гриппе, потому что он усиливает геморрагический синдром, что можем привести к непредсказуемым последствиям.

Не увлекайтесь и парацетамолом. Он еще пострашнее – разрушает клетки печени, а также вызывает растворение эритроцитов в сосудистом русле при передозировке, а передозировку получить очень легко.

Особенно опасен прием парацетамола для алкоголиков, печень которых и без того отравлена. У них гепатоксичность парацетамола может наступить даже при очень низких дозах, и при некоторых состояниях даже одна таблетка в полграмма может оказаться роковой.

Лучше лечиться луком и чесноком. Эти полезные овощи нужно не только есть, но и закапывать их сок в ноздри или нюхать почаще разрезанную луковицу и мазать ею губу под носом, а зубком ободранного ногтем чеснока натирать ноздри внутри. На ночь ставить табуретку возле постели у изголовья и на табуретке разложить тоненько нарезанные ломтики луковицы. Фитонциды её будут наполнять воздух и убивать вокруг вирусы гриппа. 2-3 дня — и грипп побежден.

## Хутка – сусветны патоп?

Наша зямля – пылінка ў сусвеце. Усё ў акаляючым нас свеце падпарадкоўваецца галактычным цыклам. Кароткія галактычныя цыклы працягваюцца 26 тысяч гадоў. Гэтыя цыклы і паўцыклы (13 тысяч гадоў) уплываюць на эвалюцыю усёй Зямлі. Межы гэтых цыклаў дакладна фіксуюцца павышэннем узроўню акіяна і глабальнымі зменамі клімату. Гэтыя падзеі атрымалі легендарную назву – Сусветны патоп.

Апошні (Ноеў) Патоп быў у 11-м тысячагоддзі да нашай эры. Хутка спаўняецца 2000 год нашай эры. Усяго – 13 тысяч год. Гэта значыць, заканчваецца паўцыкл. Якраз час наступлення новага Сусветнага Патопа.

У гэты час, сцвярджаюць вучоныя, мяняецца магнітнае поле Зямлі. На гэты раз Паўночны магнітны полюс змесціцца ва ўсходнюю частку Паўночнага Ледавітага акіяна, і гэты працэс будзе суправаджацца моцнымі магнітнымі бурамі, землятрусамі і катастрафічнымі атмасфернымі з'явамі. Зменшыцца хуткасць вярчэння Зямлі вакол сваёй восі, павысіцца тэмпература на Зямлі. Будуць раставаць леднікі, узровень сусветнага акіяна павысіцца на 20-30 метраў. Асобныя заходнееўрапейскія краіны зnікнуць пад вадой. Зменіцца напрамак Гальфстрыма, і ў Еўропу рушаць халодныя воды Паўночнага Ледавітага акіяна. А Курасіва стане цёплым і абагрэе ўсходнюю частку Далёкага Усходу. Ва Усходняй Сібіры клімат стане цёплым. Вечная мерзлата адступіць на поўнач, на месцы лесатундры ўтворацца чарназёмы. Полюс холаду ў Паўночным паўшар'і перамесціцца ў раён Волагды і Саляхарда, а на ўсходнім узбярэжжы Ціхага акіяна будзе цудоўны цёплы клімат.

У Паўднёвым паўшар'і халодная зона з Антарктыды перамесціцца ў раён Аўстраліі.

Найбольш трагічным будзе лёс паўночна-заходняе часткі Еўропы. Пахаладанне прывядзе да ўтварэння ледніка ў Скандынавіі.

Весці барацьбу са змяненнем клімату няма сэнсу, таму што сусвет не пераробіш. Ён жыве па сваіх нязменных законах. Усё ў космасе звязана з галактычнымі цыклямі, якія паўтараюцца бясконца.

*Па матэрыялах замежнага друку*